БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

1 кастрычніка 1994 г.
Субота
№ 106 (13823)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года


Малюе Віктар ДУБОВІК




## Заўтра — Дзень настаўніка

*Сімвалічна,*
*што сёлета ён амаль*
*супадае з Міжнародным*
*днём музыкі,*
*які адзначаецца сёння.*
*Бо і першыя*
*самастойныя крокі*
*ў жыцці, і першыя ноты*
*соцень тысяч такіх вось*
*хлопчыкаў і дзяўчынак,*
*што кожны год*
*прыходзяць*
*у класы — музычныя*
*і не толькі — залежаць*
*ад таго, якую частку*
*душы аддадуць*
*ім іх Настаўнікі.*
*Са святам вас,*
*нашы незабыўныя!*



Фота С.МІКАЛАЕВА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Рэха трагедыі

*Трагедыя, якая адбылася ў ноч на 28 верасня ў Балтыйскім моры, у 100 км ад шведскіх берагоў, прыцягнула ўвагу ўсяго сусветнага супольніцтва. Яна адносіцца да ліку глабальных катастроф і параўноўваецца хіба што з гібеллю ў 1912 годзе англійскага пасажырскага трансатлантычнага лайнера "Тытанік". Каб даведацца аб лёсе беларускіх пасажыраў, якія паводле сцвярджэнняў замежных сродкаў інфармацыі былі на пароме, мы звязаліся з консульскім аддзелам Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.*

Са звестак, якія меліся ў аддзеле на 30 верасня, высветлілася, што ў спісах грамадзян, якія былі на "Эстоніі", ёсць прозвішча і жанчыны з Беларусі. На жаль, інфармацыі аб яе далейшым лёсе пакуль атрымаць не ўдалося.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Сітуацыя з халерай

*У перыяд з 23 верасня, калі ў Мінску была шпіталізавана хворая на халеру жанчына, новых ахвяр гэтай хваробы не выяўлена.*

Аператыўныя меры далі магчымасць ізаляваць большасць жыхароў рэспублікі, якія кантактавалі з ёй. Аднак пошукі чатырох турыстаў — магчымых носьбітаў халернага вібрыёна — ускладніліся тым, што раз'язджалі яны, як высветлілася, па падробленых пашпартах.

### Указам – па гарэлцы

*Як стала вядома, Кабінетам Міністраў рэспублікі падрыхтаваны праект прэзідэнцкага ўказа аб упарадкаванні гандлю імпартнай гарэлкай.*

Паводле слоў самога Аляксандра Лукашэнкі, 29 верасня ім створана спецыяльная камісія на чале з саветнікам па асобых даручэннях Віктарам Кучынскім, якая і расставіць кропкі над "і" ў гэтым пытанні. Неабходнасць гэтага ўказа ўзнікла ў сувязі з тым, што нядаўняя акцыя павышэння цэн на гарэлку не дала жадаемых дадатковых паступленняў у казну рэспублікі. На думку кіраўніка ўрада Міхаіла Чыгіра, адбылося гэта ў сувязі з тым, што няма належнага кантролю за завозам і рэалізацыяй гэтага моцнага напітку. Танныя гатункі імпартнай гарэлкі па якасці не вытрымліваюць ніякай канкурэнцыі з нашай, аднак спажыванне айчыннай "беленькай" усё ж рэзка скарацілася.

— Прычыны гэтаму дзве, — сказаў Міхаіл Чыгір, — імпартная гарэлка, якая завозіцца па кантрактах, заключаных да 1 студзеня 1994 года, не абкладаецца так званым "гарэлачным падаткам". І гэтыя кантракты яшчэ ў бліжэйшыя пяць гадоў будуць дзейнічаць. Па-другое, нават у тых выпадках, калі падаткі бяруцца, у кантрактах указваецца смехатворны кошт: 1 літр — 9 цэнтаў. Гэта і дае магчымасць гандляваць імпартнай гарэлкай па нізкай цане.

### Гэта наша гісторыя

*Урачыстасці, прысвечаныя 200-годдзю паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, прайшлі 29 верасня ў Гродне.*

На будынку замка, дзе размяшчаўся штаб паўстанцаў і ўручаліся баявыя ўзнагароды камандзірам, а цяпер размешчаны гісторыка-археалагічны музей, адкрыта мемарыяльная дошка. У памяшканні музея разгорнута выстаўка карцін, прымеркаваная да юбілею паўстання. У тэатры лялек адбыўся літаратурна-мастацкі вечар. Сярод шматлікіх гасцей, якія прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях, былі надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Эльжбета Смулэк, часовы павераны па справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Джордж Крол, першы аташэ па пытаннях абароны пры пасольстве Францыі ў Беларусі Жануіў Бурыс і надзвычайны і паўнамоцны пасол Літвы ў Беларусі Вікторас Баўбліс.

### Перастараліся...

*29 верасня ў час работы сесіі Вярхоўнага Савета пры ўваходзе ў залу пасяджэнняў аховай быў затрыманы надзвычайны і паўнамоцны пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Джон Эверард. Нягледзячы на прад'яўленае пасведчанне асобы, у пасла запатрабавалі прад'явіць для агляду яго кейс.*

Каменціруючы гэты інцыдэнт, старшыня КДБ Уладзімір Ягораў адзначыў, што існуе агульны парадак, пры якім пры неабходнасці агляду падлягаюць усе, хто ўваходзіць у будынак, дзе ідзе сесія, але не ў залу пасяджэнняў. Гэта здарэнне ён ахарактарызаваў як непаразуменне. Абуральным назваў інцыдэнт намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю Юрый Папоў. Як стала вядома, у пасла Вялікабрытаніі папрасілі прабачэння.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Многа шуму ... і нічога

*У надзвычай гарачай атмасферы адбывалася пашыранае пасяджэнне Нацыянальнага камітэта маладзёжных арганізацый рэспублікі.*

Прадстаўнікі дзіцячых і маладзёжных аб'яднанняў абураліся тым фактам, што да гэтага часу не выкананыя абяцанні вызваліць ад пэўных падаткаў тых бізнесменаў, якія спачувальна ставяцца да фінансавых праблем не надта багатых маладзёжных рухаў. Выказваліся адмоўныя ацэнкі і ідэі падпарадкавання камітэта па справах моладзі Міністэрству адукацыі. Але, як высветлілася, вельмі мала залежыць і ад самога Нацыянальнага камітэта, і ад тых, каго ён аб'ядноўвае. Пашумелі — і разышліся...

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

### Унікальная лячэбніца

*Пяты год у падземных выпрацоўках шахты першага рудаўпраўлення аб'яднання "Беларуськалій" выкарыстоўваецца унікальны метад спелеалячэння. Больш як 2000 хворых на бронхі і лёгкія папраўілі тут сваё здароўе.*

На тэрыторыі СНД існуе толькі некалькі падобных медыцынскіх устаноў. Зараз салігорская спелеалячэбніца, разлічаная на 60 чалавек, вядзе будаўніцтва падземнага корпуса яшчэ на 120 месцаў.

**(Ул.інф.)**

### Спорт і бізнес

*Нацыянальны алімпійскі камітэт Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці ў бліжэйшы час мяркуе адкрыць у Віцебску, Талачыне і іншых гарадах крамы, дзе будуць прадавацца не толькі спартыўныя тавары, але і іншыя, якія карыстаюцца попытам. Пакуль жа ў якасці эксперыменту такая крама адкрылася ў Гарадку.*

Камітэт наладжвае сувязі з замежжам, адкуль неўзабаве ў вобласць паступяць тавары са скідкай на 15—20 працэнтаў.

**Уладзімір МІХНО.**

### Сабакаводы таксама гуртуюцца

*Мы прызвычаіліся лічыць сабаку сябрам чалавека. Але калі людзі бяруць на сябе адказнасць за братоў сваіх меншых, то ў іх узнікае мноства пытанняў: як і чым карміць, дзе і калі рабіць прышчэпкі і г.д. А калі сабака "высакароднага" паходжання? Тады перад гаспадаром паўстае яшчэ маса праблем — выставы, вывадкі, гадаванне племянных шчанят. Каб вырашаць усе гэтыя праблемы, створана Беларуская рэспубліканская кіналагічная асацыяцыя.*

Асноўная задача БРКА — ахова інтарэсаў спецыялістаў-кінолагаў і сабакаводаў-аматараў, стварэнне матэрыяльнай падтрымкі для развіцця сабакаводства. Акрамя таго Асацыяцыя — некамерцыйнае згуртаванне, якое мае на мэце асветніцкую дзейнасць. БРКА выступае супраць забівання сабак, варварскага ўтрымання жывёлін і выкарыстання сабак як сродку ўзбагачэння.

**Марыя АНІКЕЕНКА.**

### Курсы валют на 30 верасня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4320 | 4460 | 2779 | 2873 |
| "Прыор" | 4320 | 4400 | 2780 | 2840 |
| "Дукат" | 4300 | — | 2750 | — |

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Парламент-шоу

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

*Пасля таго, як беларускі парламент сабраўся на чарговую XVI сесію, стала відавочным: распаўсюджаны ва ўсіх былых рэспубліках Саюза палітычны сцэнарый, абумоўлены супрацьстаяннем заканадаўчай і выканаўчай улад, папулярызуецца і на Беларусі. Пакуль такое супрацьстаянне нельга лічыць дамінантай развіцця падзей "наверсе", аднак літаральна з першага дня работы дэпутацкага корпуса пачаўся перманентны працэс "пікіроўкі", пачаўся з дробязей, але стаўленне дэпутатаў да праграмы рыначных рэформаў можа перавесці яго ў іншую фазу.*

Увогуле трэба зазначыць, восеньскі час ніяк не спрыяе пацяпленню палітычнага клімату, наадварот, характарызуецца, так бы мовіць, ахалоджваннем адносін паміж палітыкамі высокага рангу, уваходзячымі ў розныя ўладныя структуры. Асабліва багатая на падобныя прыклады навейшая гісторыя. Гэтымі днямі Расія ўспамінае сумную гадавіну нацыянальнай трагедыі, змрочным апафеозам якой быў расстрэл парламента пад тэлекамерамі сусветных агенцтваў. Чорны Белы дом, такім не ўяўляўся і ў снах, вынік дэмакратычных рэформаў, распачатых у першапрастольнай інтэлігентнымі (і не надта інтэлігентнымі) спрэчкамі народных абраннікаў паміж сабой, а пасля ўвядзення прэзідэнцкай пасады — з прэзідэнтам. Дарэчы, апошні на тыдні зноў скарыў Злучаныя Штаты, дзе, па трапнай заўвазе журналістаў, адчувае сябе як дома. Тым часам у Расіі і СНД прэзідэнты працягвалі несці свой крыж, у блоках навін паміналіся імёны не знайшоўшых паразумення з парламентам (адна з тыднёвых ахвяр — крымскі прэзідэнт Юрый Мяшкоў). У нас не прайшло і 100 дзён пасля інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі, таму, згодна з агульнапрынятым этыкетам, ягоная фігура пакуль падаецца недатыкальнай, між тым, хай слоўныя, а ўсё ж коп'і вакол яе пачынаюць лунаць-мігацець. Балазе, падставы з'явіліся і пад час абмеркавання парадку дня (сесія не ўлічыла шэраг прапаноў прэзідэнта, што тычыліся змен у парадку яе работы і, паралельна ўлічыўшы, напрыклад, прапанову Зянона Пазьняка аб разглядзе пакуль фантомнага закона аб прэзідэнце), і асабліва пасля выступлення Лукашэнкі з праграмным дакументам у чацвер. Адным словам, авальная зала патроху робіцца авансцэнай палітычнага нацыянальнага тэатра, па ўсёй верагоднасці дэпутаты не пажадаюць пагадзіцца з роллю статыстаў у апошнім парламенцкім шоу. Тым больш не падыходзіць роля статыста прэзідэнту, вядомаму сваім і тэмпераментам і эмацыянальнасцю. Трэба зазначыць, што дзейнасць Вярхоўнага Савета будзе мець дастаткова відавочныя адметы па простай прычыне: пад заслону свайго пакуль не скончыўшагася часу парламентарыі зробяць усё, каб не толькі дапрацаваць на іржэўніку законатворчасці да адведзенага тэрміну, але па магчымасці застацца ў памяці народнай, бо выбары набліжаюцца з няўхільнасцю "чырвонай стралы". Прэзідэнт лічыць (аб чым і паведаміў з трыбуны), што ў новы ВС трапіць працэнтаў дзесяць ад цяперашняга яго складу. Зразумела, дэпутаты мяркуюць інакш. Прынамсі, не губляюць надзей на працяг кар'еры. Пра рашэнне аб датэрміновых выбарах амаль ніхто не ўспамінае, хаця ў свой час яно і было прадметам гонару Станіслава Шушкевіча. Калі прадстаўнік прэзідэнта ў парламенце Анатоль Лябедзька нагадаў старое памкненне аб датэрміновых выбарах, Мечаслаў Грыб выказаў волю залы, прапанаваўшы жадаючым скласці свае дэпутацкія паўнамоцтвы на падставе ўласнай заявы. Такім чынам, паўторым, парламент не пажадаў сыходзіць у цень, не пажадаў і ператварацца ў своеасаблівую залу чакання — да заканчэння законных тэрмінаў. Хаця Авальную залу можна параўноўваць з залай чакання ў іншым сэнсе. Маючы багаты вопыт палітычнага існавання і суіснавання, многамудрыя дэпутаты хутчэй за ўсё возьмуць на ўзбраенне тактыку памяркоўнасці і менавіта чакання. "Карт-бланш" будзе дадзены прэзідэнту і ўраду, а парламент зоймецца законатворчасцю і адначасова адсочваннем (любімы прэзідэнцкі выраз) сітуацыі. Калі ўзяць у разлік магчымасці ВС імгненна і публічна заявіць пра свае правы, унесці карэктывы ва ўрадавы курс, або нейкім чынам падкрэсліць амбіцыі і першараднасць, а таксама тое, што эканоміцы можа не дапамагчы нават доктар Фауст, такое чаканне становіцца лагічным. Але, мабыць, не зацяжным. Прэзідэнцкія ўказы — вось тыя гербавыя паперы, якія ў любы момант могуць запатрабаваць ад парламента больш рашучых дзеянняў. І адным з першых паўстане перад ім пытанне аб маёмасці. Пакуль жа ў цэнтры ўвагі сесіі апынуліся даклады Лукашэнкі і Чыгіра, блокі рэфарматарскіх праграмных палажэнняў, прычым і эканамічных, і палітычных.


*(Працяг на 2-й стар.)*


## ДАРАГІЯ ГРАМАДЗЯНЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ!

## ДАРАГІЯ НАШЫ ВЕТЭРАНЫ!

У гэты складаны для нашай Радзімы час дазвольце ад усяго сэрца павіншаваць вас з Днём пажылых людзей і пажадаць вам моцнага здароўя, бадзёрасці, доўгіх гадоў жыцця і спакойнай старасці.

Стала ўжо добрай традыцыяй, што дзень 1 кастрычніка, абвешчаны ААН Міжнародным Днём пажылых людзей, усюды адзначаецца і ў Рэспубліцы Беларусь.

Трэба прызнаць, што нашым ветэранам дасталася нялёгкая доля, хапіла ім бед і нягод. Яны і ваявалі, праліваючы кроў за Айчыну, і ўзнімалі з руін нашу краіну, і, задавольваючыся самым малым, будавалі будучыню для нашага і наступных пакаленняў. І не іх віна, што цяпер нашы дзяды, бабулі, бацькі і маці сталі найменш абароненымі, адкінутымі да мяжы беднасці, а многія пераступілі і гэту мяжу.

Нельга сказаць, што дзяржава забылася пра іх. Але крызісныя з'явы ў беларускай эканоміцы працягваюцца, матэрыяльнае становішча нашых ветэранаў пагаршаецца, і яны маюць патрэбу ў прыняцці дадатковых мер па іх сацыяльнай абароне.

Цяпер выканкамамі мясцовых Саветаў вызначаны комплекс мер па паляпшэнню сацыяльнага становішча пажылых людзей, аказанню ім матэрыяльнай дапамогі, садзейнічанню і паляпшэнню работы ветэранскіх арганізацый, гандлёвага і бытавога абслугоўвання ветэранаў і многае іншае.

У сувязі з гэтым я звяртаюся да кіраўнікоў мясцовых Саветаў, дэпутатаў, да працоўных калектываў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, да ўсіх працоўных нашай рэспублікі з вялікай просьбай – зрабіць так, каб ветэраны кожны дзень адчувалі наш пастаянны клопат і ўвагу.

Хачу запэўніць вас, дарагія нашы ветэраны, што прэзідэнт прыкладае ўсе намаганні, выкарыстоўвае ўсе магчымасці, каб ваша старасць была забяспечанай.

Жадаю, каб вы заўсёды адчувалі добрыя адносіны, павагу і любоў з боку маладога пакалення, а ваш шматгранны працоўны вопыт, ваша сіла волі і мужнасць, ваша цярплівасць і настойлівасць служылі добрым прыкладам для ўсіх нас.

Няхай нашы надзеі на перамены да лепшага ў рэспубліцы хутчэй збудуцца.

Дзякуй вам, дарагія ветэраны, за разуменне і падтрымку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Людміла КАХАВЕЦ,
рэдактар
Наталля ВАЛАКІДА.


"Еўраньюс" — "Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "TV-5"

### ПАРЛАМЕНТ ПАД АХОВАЙ

*На Гаіці ўпершыню пасля змены ўлады адбылося пасяджэнне парламента.*

Яно праходзіла пад аховай амерыканскіх салдат. Прэзідэнт Гаіці асудзіў непадатлівасць былых ваенных уладаў і падзякаваў ЗША за падтрымку і навядзенне парадку ў краіне.

### ЧУМА НАБІРАЕ МОЦ

*Дзяржавы Еўропы занепакоены з'яўленнем яшчэ адной хваробы — чумы лёгкіх.*

Турысты, якія прыехалі ў Еўропу з Індыі, былі адразу ж абследаваны ў аэрапорце. Сярод іх заражаных гэтай хваробай выяўлена не было. Але ў Індыі чума набірае моц. Ужо зарэгістравана больш чым 1000 выпадкаў захворвання, 46 чалавек памерлі. Кіраўніцтва Індыі звярнулася да дзяржаў Еўропы з просьбай аказаць ёй дапамогу ў медперсанале.

### НЕ ХОЧУЦЬ ЗАЛЕЖНАСЦІ

*У Мадрыдзе адбылося пасяджэнне сената.*

Пад час 3-дзённых дэбатаў разглядалася пытанне пра ўзаемаадносіны аўтаномных рэгіёнаў дзяржавы з цэнтрам. Прэзідэнт Ф.Гансалес лічыць, што такія аўтаномныя вобласці, як Каталонія і Галісія павінны знаходзіцца пад кіраўніцтвам цэнтра. Прадстаўнікі гэтых зямель байкаціравалі пасяджэнне.

### РАСІЗМ ЗАБАРОНЕНЫ

*Швейцарыя прыняла закон супраць расізму.*

Паводле апытанняў грамадскай думкі яго прынясце падтрымліваюць больш як 54 працэнты грамадзян. Адпаведна з прынятым законам усялякая расавая прапаганда, а таксама парушэнне правоў чалавека незалежна ад расавай прыналежнасці будуць крымінальна пакараныя.

### НЕ ВЕДАЮЦЬ, ШТО РОБЯЦЬ?

*У Германіі праходзіла слуханне справы ў судзе, на якім 8 юнакоў ва ўзросце ад 16 да 26 гадоў абвінавачваліся ў варварстве ў адносінах да памятных мясцін.*

У ліпені яны ўварваліся ў былы канцэнтрацыйны лагер Бухенвальд і спрабавалі знішчыць усе сведчанні фашысцкага зверства. Яны пагражалі супрацоўнікам музея і спрабавалі падпаліць будынак.

### ПАЛІТЫКУ ВЫЗНАЧЫЦЬ СЛАБЫ ПОЛ?

*Прэм'ер-міністр Даніі сфарміраваў новы Кабінет Міністраў.*

У яго састаў увайшлі 22 чалавекі, з іх 7 жанчын. На пасяджэнні новага Кабінета прэм'ер паведаміў, што зараз будучыня Даніі будзе ў многім залежаць ад удзелу ў палітыцы жанчын.

### ПАРЫЖ У НОВЫМ АБЛІЧЧЫ

*Пасля двух гадоў у Парыжы было завершана будаўніцтва падземнай дарогі для аўтамабіляў, а разам з ёй пляцовак для гаражоў.*

Выгада падземнай магістралі адразу ж дала аб сабе знаць. Зменшылася колькасць пробак на дарогах, а таксама выкіды ў атмасферу горада шкодных для здароўя газаў. Будаўніцтва падземнай дарогі каштавала 75 млн. марак.


*(Працяг на 3-й стар.).*


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

